
№ 28 (189)
Ліпень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:






Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ

## На тым тыдні

• **22 ліпеня** ладзілася свята паэзіі і песні **«Ракуцёўскае лета – 2007».** Яго арганізатары – Літаратурны музей Максіма Багдановіча ў Мінску і Маладзечанскі аддзел культуры. Пабыла на святе і «Краязнаўчая газета» разам з паэтамі Л. Дранько-Майсюком, В. Шніпам, А. Зэкавым, В. Жуковічам ды іншымі.

Усе прысутныя ўбачылі новую мемарыяльную экспазіцыю, паслухалі аповед пра жыццё Максіма ў Ракуцёўшчыне з вуснаў дырэктара Літаратурнага музея М. Багдановіча Таццяны Шэляговіч, якой тут жа дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, мастак Уладзімір Пракапцоў падараваў свой твор з краявідамі Ракуцёўшчыны.

Вершы сучасных паэтаў, спевы фальклорных калектываў Маладзечаншчыны, маляўнічыя краявіды, роднасць іх з тою мовай, што гучала на ракуцёўскіх пагорках у гэты дзень, аб'ядноўвала ўсіх прысутных (а іх было чалавек 300). Аб'ядноўвала і радавала: жыве Максімe!

# У царквы і грамадства адна мэта — ведаць гісторыю свайго краю

***«Лёсы нашых землякоў» – пад такой назвай Уздзенскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеем была праведзена навуковая канферэнцыя, якую адкрываў і блаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.***

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел вядомыя краязнаўцы А. Валахановіч і М. Маліноўскі, заслужаныя дзеячы навукі, культуры, мастацтва, такія як І. Чарота – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры БДУ, літаратуразнаўца, В. Аношка – доктар навук, прафесар, Л. Казлоў – доктар навук, прафесар, В. Цяплова – прафесар Мінскай духоўнай акадэміі, дацэнт БДУ, Г. Кісялёў – галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская навука», Г. Шэйкін – рэферэнт Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, У. Ткачоў – мастак, член Саюза мастакоў Беларусі, В. Шырко – пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, І. Барчанка – кіраўнік цэнтра гуманітарных ініцыятыў і інш. Як вынікае з пераліку ўдзельнікаў, канферэнцыя мела агульнарэспубліканскі маштаб.

За апошнія гады краязнаўцы Уздзеншчыны шмат зрабілі па вывучэнні гісторыі роднага краю. Вынікам іх даследаванняў сталі кнігі Алеся Махнача «Нізок» і «Забалацце», Міхаіла Лазара «Хатляны», Дзмітрыя Вінаградава «След погасшей звезды», Васіля Шырко «Трыпутнік на асфальце». Да выданняў «В послушании преданный» (зборнік, прысвечаны 25-годдзю служэння на беларускай зямлі Мітрапаліта Філарэта), «Записки сельского священника» Плакіда Янкоўскага і іншых спрычыніліся нашы земляki.

Важкім дасягненнем карпатлівай даследчай працы стала выданне кніг краязнаўцы Уладзіміра Кісялева «Парадоксы электрического человека» (аб жыцці і дзейнасці прафесара электраграфіі і магнетызму Я.А. Наркевіча-Ёдкі) і «Исследователь внимательный и трудолюбивый» (аб жыцці і дзейнасці гісторыка і багаслова, прафесара Уладзіміра Зянонавіча Завітневіча). З гэтай нагоды і была праведзена канферэнцыя-прэзентацыя «Лёсы нашых землякоў» у рамках праграмы па выкананні «Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Беларускай Праваслаўнай Царквою», прынятым у 2003 годзе.

Першая канферэнцыя ў гісторыка-краязнаўчым музеі «Гісторыя роднага краю», прысвечаная гэтай тэме, была праведзена ў 2004 годзе. Яе рэкамендацыі па абнаўленні і развіцці гістарычнай і культурнай спадчыны на Уздзеншчыне ўвасабляюцца ў жыццё:

– арганізоўваюцца і праводзяцца выстаўкі ў музеі;

– праводзяцца сумесныя мерапрыемствы па захаванні, ушанаванні і добраўпарадкаванні месцаў пахавання воінаў – абаронцаў Айчыны з удзелам святароў з улікам царкоўных правілаў і традыцый;

– у гісторыка-краязнаўчым музеі, школе № 3 праводзіцца даследчая работа па царкоўным краязнаўстве. Вывучаюцца і знаходзяць адлюстраванне ў пастаяннай экспазіцыі і ў тэматычных выстаўках матэрыялы, звязаныя з гісторыяй царквы, дзейнасцю святароў, з гісторыяй царкоўных прыходаў раёна;

– сумесна вывучаюцца і адраджаюцца традыцыі праваслаўных, народных і сямейных святаў;

– у рамках культурна-інфармацыйнага праекта «Уздзеншчына» распрацоўваюцца мультымедыйныя праекты, серыі кніг-брашур пра людзей Уздзенскага раёна;

– праводзяцца Дні беларускай і славянскай пісьменнасці і культуры, у дзіцячай школе мастацтваў праводзяцца праваслаўныя песнапенні і канцэрты духоўнай музыкі.



В.Н. Киселев

ИССЛЕДОВАТЕЛЬ ВНИМАТЕЛЬНЫЙ И ТРУДОЛЮБИВЫЙ

О жизни и деятельности историка и богослова, профессора В.З. Завитневича

Нашы незаслужана забытыя і знакамітыя землякі нарадзіліся, жылі і тварылі на пераломе XIX–XX стагоддзяў. У іх ліку быў дагэтуль малавядомы вучоны Уладзімір Зянонавіч Завітневіч, доктар царкоўнай гісторыі, прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, які нарадзіўся ў сям'і патомнага праваслаўнага святара ў вёсцы Ліцвяны былога Мінскага павета (цяпер Уздзенскага раёна). Некаторыя яго манаграфічныя працы сталі прадказальнымі, яго высновамі карысталіся вучоныя.

Цікавы лёс і таленавітага беларускага прыродазнаўцы Якуба Наркевіча-Ёдкі, які даследаваў уздзеянне электрычнасці на расліны, праводзіў доследы па прыёме і перадачы электрычных сігналаў без дратоў, распрацаваў метад кантролю фізічнага становішча і здароўя чалавека, заснаваны на атрыманні фатаграфічных адлюстраванняў з дапамогай электрычных разрадаў і метад электратэрапіі паралізаваных і нервовахворых. З сучасных пазіцый работы вучонага ацэньваюцца як значны ўклад у развіццё навукі.

Не прапала бясследна праца гэтых людзей. Яны назаўсёды ўвайшлі ў скарбонку творчай думкі, і ўсе даследчыкі, як і ўдзельнікі канферэнцыі-прэзентацыі будуць яшчэ неаднаразова вяртацца да іх, спрабуючы асэнсаваць нашу будучыню, дзякуючы нашаму земляку, краязнаўцу Уладзіміру Мікалаевічу Кісялёву, кандыдату эканамічных навук, заслужанаму работніку камунальнай гаспадаркі Беларусі.

Імя Уладзіміра Кісялёва на Уздзеншчыне прагучала 35 гадоў таму, калі ён здзяйсняў па наднёманскай зямлі шэраг падарожжаў і даў ім апісанне ў друку.

Цікавячыся гісторыяй і культурай роднага краю, ён рэканструяваў і даў гістарычнае асэнсаванне, тлумачэнне асаблівасцям тутэйшых гістарычных працэсаў. З яго ўдзелам выяўлены і вернуты шэраг малавядомых мясцовых персаналіяў.

Першы вопыт пошукаў ён абагульніў у кнізе «На истоках Нёманских» (1985), які потым развіў у кнізе «Пуцявінамі Надняпроння» (1994). Значны ўклад Уладзімірам Кісялёвым унесены ў распрацоўку мясцовай рэлігійнай гісторыі. Плёнам працаглага 20-гадовага пошуку і стала выяўленне постаці нашага знакамітага земляка У. Завітневіча.

Іх каштоўнасць будзе асабліва высокай у пераломныя перыяды нашай гісторыі.

Асобы нашых адметных землякоў Уладзіміра Завітневіча і Якава Наркевіча-Ёдкі заслугоўваюць усялякага ўзвышэння і папулярызацыі.

**Т. ЛУХВЕРЧЫК,**
***дырэктар Уздзенскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея***



***Кожная высакародная асоба добра ўсведамляе сваю крэўную роднасць, сваё крэўныя сувязі з бацькаўшчынай***

***В. Бялінскі***





## Падарунак для ўсіх

Беларускі фонд культуры атрымаў падарунак ад Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. На самой справе – наша краіна атрымала падарунак – камплект кампакт-дыскаў «Музыка Беларусі XX стагоддзя». Упершыню ў Беларусі сабрана 100 твораў сімфанічнай, камернай і эстраднай музыкі (50 беларускіх кампазітараў), якія ў выглядзе архіўных запісаў захоўваліся ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. У падрыхтоўцы і выданні CD (у наборы – 7 кружэлак) прымалі ўдзел супрацоўнікі музея, спецыялісты ў галіне гісторыі музычнай культуры Беларусі, якія паставілі перад сабой мэту – не толькі захаваць для наступных пакаленняў унікальны музычны матэрыял, але і распаўсюдзіць інфармацыю пра нашу музычную культуру па краіне і за яе межамі.




Гэты праект стаў рэальны дзякуючы намаганням Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО (старшыня У.Р. Шчасны) і фінансаванню Бюро ЮНЕСКО ў Маскве.

***Наш кар.***

*Жыццёвыя былі*

## Сум па роднай мове

*Шматлікіх нашых людзей па-ранейшаму турбуе, што родная мова ўсё менш і менш гучыць у побыце, з тэлевізійнага экрана, у школах. Не чуваць яе ў парламенце. На гэта ёсць шмат прычынаў. І найпершая з іх – ігнараванне роднай мовы высокімі ўладнымі структурамі. Нават міністэрствамі культуры і асветы. А на іх гледзячы, анямелі на беларускую мову і больш дробныя чыноўнікі.*

*У краіне гаварыць на роднай мове сталася справай мужнасці і адвагі. А гэтага якраз шмат каму не стае. А от тыя, хто мае сілу і адвагу ўсюды трымацца роднага слова, адчулі, што нашы людзі засумавалі па роднай мове. Вось колькі сюжэтаў са сваёй жыццёвай практыкі.*

### Маеце права...

...Кажуць, узрост пакідае свае сляды. Ён прывёў мяне да зубапратэзнага ўрача. Паводле закону, мне, як пенсіянеру і інваліду з ваеннага маленства па зроку, зубапратэзаванне робіцца бясплатна і без чаргі. Аднак у рэгістратуры засумняваліся: маё пасведчанне інваліда было не зусім такое, як у інвалідаў-франтавікоў. Рэгістратарка паслала мяне да загадчыка зубапратэзнай службы. І от я ў таго медыка-начальніка, яшчэ маладога чалавека. Спрабую коратка патлумачыць маю сітуацыю. Вядома ж, на сваёй роднай мове. І от пытаюся, ці маю я права на бесчарговае і бясплатнае зубапратэзаванне? Загадчык перапыняе маё тлумачэнне і кажа па-юнацку бадзёра, весела:

– Маеце! За адно ўжо толькі тое, што вы ўсюды трымаецеся роднага слова, нават у нашай зубапратэзцы!

І тут жа падпісаў усе мае паперы на бесчарговае і бясплатнае зубапратэзаванне.

Маленькі штрышок, маленькая дэталька, а якая яна маральна шматзначная. Між іншым, у той жа паліклініцы я не раз чуў шчырае парыванне маладых лекараў і зубатэхнікаў гаварыць са мною на роднай мове. І яны, канечне, так і размаўлялі, калі б побач з імі былі такія шчырыя і іншыя.

### Грыбное шчасце

Прыгадваецца яшчэ адзін сюжэт. Ужо даўнавата, дзесь у жніўні паехалі з паэтам Генадзем Тумашам у грыбы. Падаваліся ў лес адвольна, без асаблівага ведання грыбных мясцінаў. Выйшлі на адным з прыпынкаў поблізу Негарэлага. Пакінулі перон і пачасалі ўглыб лесу. Ідзем і гамонім. Папераздзе нас ішла жанчынка сярэдняга веку, слухала яна нашу гамонку і раптам, прыпыніўшыся і азірнуўшыся, кажа:

– Хлопцы, не бядуйце; я завяду вас у грыбы. Гэта за адно толькі тое, што вы абодва гэтак хораша размаўляеце па-нашаму...

І ўжо далей пайшлі ўтраіх. Яна і напраўду завяла нас у грыбное месца. Набралі мы тых грыбоў і ўжо разам дахаты вярталіся. Хтось з нас і пытае:

– І вам не страшна было з намі ў лесе?

– Не, не страшна, – адказала тая.

– Я вам адразу паверыла. Хто так добра гаворыць па-нашаму – той не можа быць злачынцам. А для страхоўкі от што я маю, – і паказала электрашокер.

Папрасілі назваць яе імя, месца працы ці прафесію. Хораша ўсміхнулася ў адказ: «Ларыса». І на гэтым развіталася з намі, пакінуўшы нас у добрым настроі.

### І не толькі пра ажыны...

А от яшчэ адзін «лясны» сюжэт пра знаёмства праз слова. Было гадоў з шэсць таму. Я вяртаўся па просецы з лесу. Пры дарозе між густога кустоўя шастала якаясь бабулька. Я зачапіў яе:

– І што вы тут знаходзіце?

– Ды ежевику! – адказвае.

– І адкуль вы такія будзеце, што ажыны называеце «ежевикай», - пацікавіўся я.

– Ды з Хойнікаў я. Тут усе кажуць: «ежевика», дык і я – «ежевика». А так у нас гэтыя ягады ажынай завуць.

На гэтым наша выпадковая гаворка праз слова не скончылася. Мне прыгадалася, што ў згаданых Хойніках колісь жыла мая цётка Даша з дзецьмі. Ці не чула бабулька пра яе што-кольвек?

– А вы хто будзеце? – на свой чарод пацікавілася лясная незнаёмка.

– Я – Содаль Уладзімір.

– Кажаце, Содаль? А я з якімсь Содалем Пятром калісь, яшчэ да вайны, настаўнічала ў Рэчыцы.

– Ды гэта ж мой родны дзядзька, – кажу. – Татаў родны брат.

Жанчынка аж у ладкі пляснула:

– От гэта стрэча дык стрэча!

Мы селі на прасекавую траву і доўга-доўга яшчэ гаманілі. А гутарка наша пачалася пра ажыны, а потым перайшла і на іншае жыццёвае...

***Уладзімір СОДАЛЬ***

*Упершыню на Беларусі*

## «Ты вярнуўся да роднай незабытай зямлі»

***Упершыню на Вілейшчыне (гістарычнай радзіме Піліпа Орліка – гетмана і аўтара першай канстытуцыі Украіны) быў праведзены конкурс сярод навучэнцаў, прысвечаны 335-годдзю з дня нараджэння вядомага земляка.***

***Конкурс арганізаваны па рашэнні Вілейскага гарадскога і раённага Саветаў народных дэпутатаў. З ініцыятывай выступіла Грамадская камісія па ўвекавечванні памяці Піліпа Орліка Беларускага рэспубліканскага таварыства ўкраінцаў «Ватра» пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Беларусі.***

У адной з найлепшых вілейскіх гімназій «Логас» (дырэктар – Наталля Жыбуль) у актавай зале сабраліся вучні Рабуніскай, Ільянскай, Даўгінаўскай, вілейскіх 3-й і 5-й сярэдніх школ, гімназіі № 2, студыі «Вясёлка», Цэнтра мастацкай творчасці. Сюды таксама прыйшлі бацькі, настаўнікі, супрацоўнікі аддзелаў народнай адукацыі, культуры райвыканкама. Наведалі выніковую сустрэчу і прадстаўнікі пасольства Украіны: дарадца Аксана Кіцун, першы сакратар Алег Сіроцін, другі сакратар Леанід Ясінскі, старшыня Грамадскай камісіі па ўвекавечванні памяці Піліпа Орліка кандыдат гістарычных навук, дацэнт гістфака БДУ Святлана Лугаўцова. А ў падвядзенні вынікаў бралі ўдзел старшыня Вілейскага раённага Савета народных дэпутатаў Яўген Ігнатовіч, начальнік аддзела па працы з моладдзю Вілейскага райвыканкама Ігар Кіцікаў.

Арганізатары падрыхтавалі выстаўкі малюнкаў, лепшых тэматычных сачыненняў, фотаработ, прысвечаных Піліпу Орліку.

Пераможцамі сталі дзесяцікласніца СШ № 3 г. Вілейкі Ірына Прушан (намінацыя «Якім я бачу знакамітага земляка»), вучаніца гарадской гімназіі № 2 Наталля Махно (намінацыя «Жыццё і дзейнасць гетмана Украіны»), фотастудыя Вілейскага тэхнічнага каледжа (намінацыя «Сяло Касута – радзіма Піліпа Орліка і мая»). Спецыяльныя дыпломы арганізатараў атрымалі Ганна і Кацярына Барсуковы з гімназіі № 2 (за серыю малюнкаў пра аўтара першай украінскай канстытуцыі). Усе пяць пераможцаў атрымалі пуцёўкі ў адзін з лепшых летнікаў Украіны. Не забыліся і на тых, хто заняў 2-е і 3-е месцы: акрамя дыпломаў, яны атрымалі кнігу пра Піліпа Орліка, што ўпершыню выдадзена ў Беларусі.

Музычную частку свята забяспечылі Міхаіл Ермаловіч, які выканаў песні Зінаіды Крупскай пра Піліпа Орліка на вершы Віктара Кажуры, вакальны гурт «Суквецце» (кіраўнік – С. Траццяк) і танцавальны калектыў пяцікласніц вілейскай гімназіі № 2.

Адзначаючы юбілейную дату Піліпа Орліка, украінцы Беларусі, жыхары Вілейшчыны аддаюць даніну павагі стваральніку фундамента дзяржаўнасці Украіны. Грамадскай камісіяй да яго юбілею распрацаваны план мерапрыемстваў, у межах якога запланавана правядзенне фестывалю «Мы ў славе адзіныя – мы ў сяброўстве моцныя», Дзён украінскай гісторыі і культуры, адкрыццё вуліцы імя Піліпа Орліка.

***Галіна КАЛЮЖНАЯ,***
***старшыня Грамадскай камісіі па ўвекавечванні памяці Піліпа Орліка Мінскага грамадскага аб'яднання ўкраінцаў «Заповіт», заслужаны работнік культуры Украіны***



Пилип Орлик
(1672 – 1742)

***Віктар Кажура – настаўнік беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 2 г. Вілейкі напісаў верш «Памяці Піліпа Орліка» адмыслова для конкурсу з аўтарскім прысвячэннем: «Дарагому, шчыраму, роднаму народу Украіны з надзеяй на тое, што мы былі, ёсць і будзем разам!» Прапаноўваем гэты твор увазе чытачоў.***

*Віктар КАЖУРА*

### Памяці Піліпа Орліка

*Тут адно зззяе сонца для ўсіх,*
*Аблачынкі – як лёгкія мары.*
*Дух захопіць ад велічы дзеяў тваіх*
*На бяскрайнім славянскім абшары.*

*Нас з табой парадніў вечны шлях,*
*Што пралёг ад варагаў у грэкі,*
*І люлялі на дужых,*
*пяшчотных руках,*
*Бы ў калысцы, славутыя рэкі.*

*Каласы буйны вецер часаў,*
*Іскры золата ў жыце ігралі –*
*З печы хлеб, нібы сонца*
*ў кляновых лістах,*
*Нам з табою матулі давалі.*

*Гэты хлеб, гэты зваблівы пах*
*Ратаваў у дарозе ад стомы –*
*І ўсплывала валошка*
*ў ліцвінскіх палях,*
*І сцяжынка да роднага дома.*

*Лёгкім мігам стагоддзі сышлі,*
*Салаўі адспявалі вяснянку...*
*Ты вярнуўся да роднай –*
*нязбытай – зямлі*
*Промнем сонечным чыстага ранку.*

*Бачыш – цуд: зацвілі камяні,*
*Твая слава на іх прарастае.*
*Ты не той блудны*
*сын на матулі-Зямлі,*
*Ты Сумленне і Памяць людская!*

Традыцыі і сучаснасць

# Невядомыя старонкі гісторыі

**Зміцер Сасноўскі. DVD «Старыя інструменты Беларусі». БМAgroup. Мн., 2007.**




Зміцер Сасноўскі, лідэр папулярнага гурта сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса», не толькі таленавіты музыка, але яшчэ здольны сцэнарыст і рэжысёр. Прэм'ера яго фільма «Старыя інструменты Беларусі» паспяхова прайшла ў кінаканцэртнай зале рэспубліканскага Палаца моладзі, а нядаўна фільм выйшаў і на DVD.

Выданне выканана настолькі зграбна і шыкоўна, што дыск можа стаць унікальным падарункам для тых, хто гасцяваў тут або едзе падарожнічаць у далёкія краіны ды захоча паказаць яго іншым. Стужка пабудавана ў выглядзе цэльнай пяцічасткавай сюіты, дзе чароўныя беларускія мелодыі прывабліваюць і сваёй прыгажосцю, і гукамі інструментаў: 1. Дуда. 2. Лютня. 3. Колавая ліра. 4. Гуслі. 5. Сурма. А вядуць сваю гісторыю гэтыя інструменты з X, XII, XIV стагоддзяў.

Гісторыя даўняя, але рознае бывала. Майстар-лютніст Юры Дубнавіцкі распавядае, як напачатку савецкай улады сутаргава прыдумвалі нацыянальныя інструменты розным савецкім народам, і беларусам чамусьці выпалі цымбалы, якія не менш вядомыя і ў малдаван, і ў гуцулаў, а вось лютня ў Беларусі мела не толькі адметныя асаблівасці, але і больш трывалую гісторыю ды шырэйшы распаўсюд: ледзь не ў кожным паселішчы былі свае майстры і музыкі.

Гучаць у фільме і ўспаміны майстра-фальклартыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Пузыні, які яшчэ з 1980-х намагаўся вярнуць у беларускі культурны ўжытак сурму, і цяпер яна гучыць на вялікіх адкрытых фэстах, у канцэртных залах і нават на оперных сцэнах.

Песні ярка адлюстроўваюць названыя і іншыя ўзоры самабытнай музычнай культуры. Адна з іх – вясельная песня ад майстра-этнографа Тодара Кашкурэвіча:

*Як дуда зараўла,*
*Усіх з розуму звяла,*
*А як гусelькі загралі,*
*Нас на розум настаўлялі.*

Неверагодныя весткі даносіць і ягоны старэйшы калега Віктар Кульпін: «Дуда – гэта сімвал гармоніі свету, залагоджвання багоў. Проста агаломшвае факт, калі разумееш, што за гэтым стаіць шэсць тысяч гадоў традыцыйнай культуры. Вялікая культурная рэвалюцыя, якая адбылася з чалавецтвам у выніку прыручэння жывёлаў, увасоблена ў гэтым інструменце».

А той жа Тодар дадае і фальклорнае сведчанне: «Гэты інструмент ніадкуль і ніколі сюды не прыходзіў. Дуда існуе з намі ад самых пракаветных часоў, яна пачынаецца ад рытуалу. Захавалася нават калядная песня, дзе прамаўляецца: "Не бойся, козачка, стральцоў-мальцоў, бойся дзеда старога, ён цябе заб'е, скуру злупе, дуду пашые!"».

У фільме ўдзельнічаюць шмат знакамітых знаўцаў даўняй музыкі. Акрамя названых, згадаем яшчэ Вольгу Дадзіёмаву, Арыну Вячорку і Валерыя Жывалеўскага, Таццяну Бяльковіч, Алеся Курбана, Валерыя Зінкевіча. Дый музыка гучыць у выкананні гуртоў медыевальных («Стары Ольса», «Ліцьвінскі хмель»), акадэмічных («Classic avantgarde», «Кантабіле»), фальклорных (капэла Алеся Ляся, «Яварына»), а таксама сучаснай папулярнай музыкі (ад «Песняроў» да «Znich»). Адным словам, фільм «Старыя інструменты Беларусі» – гэта гадзіна паглыблення ў высокую культуру нашай краіны.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

# Сонечны птах над Беларуссю

**«Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць, кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай Бацькаўшчыны – Беларусі»** ***– такім напамінам з 1919 года звяртаецца да нас, нашчадкаў, Янка Купала (артыкул «Незалежная дзяржава і яе народы»).***

***Восьмы раз Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі ладзіць міжнацыянальны форум – адкрыты гарадскі фестываль нацыянальных культур «Сонечны птах». Дакументы аб фестывалі падпісаны яго пастаяннымі арганізатарамі і суарганізатарамі, тэрміны і ўмовы вызначаны. У гэтым годзе «Сонечны птах» прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, галоўнымі тэмамі конкурсу «Калыска дабрыні» прапанаваны, па-першае, «Адвечная песня» – мастацкае адлюстраванне свайго асэнсавання твораў беларускіх песняроў праз слова, малюнак, пластычны выраб, фотавідэасюжэт ці іншым чынам, па-другое, «З рога ўсяго многа» – вобразнае прадстаўленне народнай казкі (казкі народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі). Зацікаўленыя пачынаюць рыхтавацца да ўдзелу ў фестывалі нацыянальных культур «Сонечны птах» ужо заўтра!***

***Фестываль распачынае міжкультурны дыялог і запрашае да творчага супрацоўніцтва.***

*Ніна ХОДАР*

## ПАЛАЖЭННЕ аб VIII адкрытым гарадскім фестывалі нацыянальных культур «Сонечны птах»

**І. Арганізатары:**

– Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама;

– Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі;

– Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Суарганізатары:

– Дэпартамент грамадскай інфармацыі ААН;

– Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО.

**II. Мэты і задачы:**

– папулярызацыя сярод дзяцей і моладзі ідэй цярплівасці і каштоўнасці культурнай разнастайнасці ў грамадстве, паважлівых адносін да асобы незалежна ад яе нацыянальнай прыналежнасці;

– аб'яднанне ў супольнасць дзяцей і моладзі розных нацыянальнасцей праз творчасць;

– патрыятычнае і інтэрнацыянальнае выхаванне праз развіццё творчых здольнасцей дзяцей і моладзі;

– актыўны пошук новых талентаў у галіне мастацкай творчасці;

– далучэнне дзяцей і моладзі да мастацкай творчасці і традыцый розных народаў.

**III. Удзельнікі:**

– калектывы і члены гурткоў дэкаратыўна-прыкладной творчасці;

– кіраўнікі гурткоў і настаўнікі;

– майстры народнай творчасці;

– арганізатары гульняў і гульнёвых праграм;

– дзіцячыя калектывы мастацкай самадзейнасці;

– калектывы і ўдзельнікі грамадскіх аб'яднанняў грамадзян, якія адносяць сябе да нацыянальных меншасцей (далей – этнакультурныя грамадскія аб'яднанні).

**IV. Месца і тэрміны правядзення:**

*1 этап* – на базе ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, пазашкольнага выхавання і навучання; калектываў этнакультурных грамадскіх аб'яднанняў – да 15 кастрычніка 2007 года;

*2 этап* – на базе Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі 3 і 4 лістапада 2007 г.

**V. Умовы правядзення**

У межах фестывалю праводзяцца:

– выстава «Традыцыі і сучаснасць» і конкурс «Калыска дабрыні» (палажэнне дадаецца);

– конкурс «Сувенір у нацыянальных традыцыях»;

– гульнёвыя праграмы «Кола часу»;

– канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці;

– кірмаш работ майстроў народнай творчасці;

– майстар-класы.

1. Конкурс: «Сувенір у нацыянальных традыцыях»

Удзельнікі: каманды дзяцей ад 10 да 16 гадоў у колькасці 7 чалавек кожная. Заданне: самастойна зрабіць за 30 хвілін дапаўненні да адзення (аздабленні, аксесуары) у традыцыі нацыянальнай культуры, загадзя абранай праз жараб'ёўку. Пры выкананні задання можна выкарыстоўваць хатнія нарыхтоўкі. Матэрыялы і інструменты кожная каманда прыносіць з сабой. Пасля выканання задання ўдзельнікі павінны паказаць і абараніць сваю работу, растлумачыць традыцыі ўжывання таго ці іншага элемента, яго семантыку.

2. Гульнёвыя праграмы «Кола часу»

Удзельнікі: каманды дзяцей ад 10 да 16 гадоў у колькасці 10 чалавек кожная, якія могуць быць сфарміраваны як з удзельнікаў, так і з гледачоў фестывалю.

3. Канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці:

У канцэрце прымаюць удзел калектывы этнакультурных грамадскіх аб'яднанняў з лепшымі канцэртнымі нумарамі, якія прайшлі папярэдні адборачны тур. Кожны нумар павінен быць не болей за 3 хвіліны.

**VI. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў**

Папярэдні адбор і падвядзенне вынікаў ажыццяўляе кампетэнтнае журы, у склад якога ўваходзяць майстры народнай творчасці, мастакі, мастацтвазнаўцы.

Крытэрыі адзнакі:

– захаванне, адраджэнне і прапаганда нацыянальных традыцый;

– лепшае адлюстраванне нацыянальнага характару;

– высокі мастацкі ўзровень;

– фантазія і майстэрства выканання;

– нетрадыцыйны падыход да раскрыцця тэмы.

1. Конкурс «Сувенір у нацыянальных традыцыях»:

1.1. Устанаўліваюцца калектыўныя і індывідуальныя прызы для трох лаўрэатаў у кожнай намінацыі:

– ткацтва;

– вышыўка;

– габелен;

– саломапляценне;

– выцінанка;

– дробная пластыка;

– флорадызайн.

1.2. Вызначаюцца 3 спецыяльныя прызы для калектываў, якія найбольш актыўна на працягу ўсяго часу прымалі ўдзел у фестывалі і ўнеслі значны ўклад у справу прапаганды і папулярызацыі звычаяў і культурных традыцый народаў, прадстаўнікі якіх пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

1.3. Вызначаецца «Гран-пры» фестывалю калектыву, які ўнёс значны ўклад у справу аб'яднання ў супольнасць дзяцей і моладзі розных нацыянальнасцей праз творчасць на адкрытых гарадскіх фестывалях нацыянальных культур «Сонечны птах».

1.4. Вызначаюцца спецыяльныя прызы Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей:

– за развіццё і папулярызацыю этнакультурных традыцый;

– за значны ўклад у развіццё дыялогу культур і мацаванне міжнацыянальнай згоды ў грамадстве.

1.5. Вызначаецца спецыяльны прыз Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО:

– за значны ўклад у папулярызацыю каштоўнасці культурнай разнастайнасці.

Заяўкі да ўдзелу ў фестывалі падаюцца да 22.10.2007 г. у Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі (каб. № 105, Картуль Наталлі Валянцінаўне, т. 233 67 99). У заяўцы неабходна пазначыць назву ўстановы, калектыву, прозвішча, імя, імя па бацьку кіраўніка і ўдзельнікаў. Арганізацыйны сход і жараб'ёўка для ўдзелу ў конкурсе «Сувенір у нацыянальных традыцыях» адбудуцца 11.10.2007 г. а 11 гадзіне ў каб. № 105 МДзПДзіМ, Старавіленскі тракт, 41.

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–27)*

23 лютага будучая вядомая дзеячка беларускай культуры П. Мядзёлка (1893–1974) падорыць Я. Купалу свой фотаздымак з надпісам: «Даражэнькаму Янцы Купале на шчырую памятку». Варта зазначыць, што ў тыя часы асабістыя ўзаемаадносіны аўтара «Паўлінкі» і выканаўцы ролі галоўнай гераіні мелі, а мабыць, яшчэ і сёння маюць загадкавы, таямнічы характар. На гэты конт было, будзе нямала і праўдзівага, і надуманага. Можа, абое – маладыя, прыгожыя, таленавітыя, шляхетныя і гордыя – не сыйшліся характарамі?!. Ва ўсякім разе гэтыя жыццёва-творчыя ўзаемаадносіны яркіх асоб могуць быць падставай для напісання выдатных п'есы альбо аповесці ці рамана.

У красавіку выйшаў у свет новы зборнік паэзіі «Шляхам жыцця». А. Луцкевіч у нашаніўскай рэцэнзіі падкрэсліў: «Кніжка цешыць душу кожнага беларуса. Гэта ўжо сур'ёзны здабытак беларускай літаратуры» – г.зн. паўторыць ужо сказанае задоўга да яго пра ранейшыя Купалавы кнігі. У чэрвені, наведаўшыся да родных, Купала ў Акопах заканчвае паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і Я», вадэвіль «Прымакі» (так што, як слушна падкрэсліваюць многія даследчыкі, перад славутым ляўкоўскім цыклам ягоных твораў быў у яго, можа, і больш знакаміты цыкл, акопаўскі!), зноў піша шмат вершаў, артыкулы. Клапоцячыся пра развіццё драматургіі і тэатра, 30 снежня падае ў Драматычную цэнзуру пры Галоўным упраўленні па справах друку 11 драматычных твораў на беларускай мове з просьбай дазволіць іх да пастаноўкі і паведаміць пра гэта ў афіцыйным органе «Правительственный вестник».

31 снежня пасля пададзенай рэдактарам «Нашай Нівы» А. Уласавым заявы губернатару ў сувязі з тым, што ён саступае правы і абавязкі І. Д. Луцэвічу, губернатар звяртаецца да віленскага паліцмайстра з просьбай «представить мне сведения о том, обладает ли Луцевич общею гражданской правоспособностью, не состоит ли под судом или следствием и, в утвердительном случае, за что именно, не подвергался ли несостоятельности, а также сколько ему лет». У сувязі з гэтым нельга не ўсміхнуцца, калі даведваешся, што тады ж, у снежні, у часопісе «Трезвая жизнь» быў апублікаваны ў перакладзе на рускую мову верш Купалы «Гарэлка». А калі сур'ёзна, то Янку Купалу пасля яго вяртання з Пецярбурга будзе дадзена магчымасць узначаліць «Нашу Ніву» і папрацаваць на новай, рэдактарскай, ніве дзейнасці.

**Ад рэдакцыі. *У гэтым матэрыяле выкарыстаны ўдакладненыя звесткі з 9 тома (кніга другая) Поўнага збору твораў (Мн., 2003) Янкі Купалы з раздзела «Летапіс жыцця і творчасці».***



***П. Мядзёлка ў Пецярбургу***

# Купалаў дар пад гітару Мулявіна

## Народны паэт у стылі «рок»

*Паэзія Янкі Купалы пастаянна была ў полі зроку легендарных «Песняроў» Уладзіміра Мулявіна. Лепшыя праграмы і рок-оперы былі створаны менавіта на вершы паэта. Аднак не толькі ў літаратурнай і жыццёвай біяграфіі Янкі Купалы шмат загадак, нямала іх і ў песеннай спадчыне паводле паэтавага слова. Ад «Спадчыны» да «Малітвы», так сказаць, купалаўскіх «Песняроў» слухае «Краязнаўчая газета».*

### Не на словы Купалы?

Першай песняй на верш Янкі Купалы ў рэпертуары «Песняроў» паводле дыскаграфіі стала «Спадчына» Ігара Лучанка. Твор з'явіўся ў 1972 годзе, а запісаны быў на 2-м альбоме ансамбля ў 1974-м. Першым выканаўцам стаў Анатоль Кашапараў, а песня аказалася ягоным першым сапраўдным поспехам, што быў замацаваны праз некалькі гадоў партыямі Мужыка і Пастушка ў «Песні пра долю». Цікава, што песня «Спадчына» – легендарная, але падзабытая праз эміграцыю Кашапарава ў ЗША – нечакана адрадзілася напрыканцы 1990-х, калі яе заспяваў сам Уладзімір Мулявін. Аранжыроўка, зробленая мінімальнымі музычнымі сродкамі, набыла як сучасныя рысы ва ўступе, так і манументальнасць, што пасуе тэксту і пафасу твора. Адметным дадаткам стала спавядальная манера выканання Мулявіна. Яшчэ адным творам на верш першага народнага паэта Беларусі на тым жа альбоме «Песняроў» была песня «Чорныя вочы», якую выконваў Леанід Барткевіч.

Але, бадай, найбольшай загадкай цяпер выглядае прысутнасць на дыску яшчэ адной песні на верш Янкі Купалы: славутая «Нашто бабе агарод» – гэта «Прыпеўка» са зборніка «Спадчына» (1922). Ні ў адным з выданняў «Песняроў» да цяперашняга часу яна не пазначана як аўтарская, у тым ліку ў анатацыі да нявыдадзенай па сённяшні анталогіі на 21 дыску. Паўсюль – «словы народныя – музыка Уладзіміра Мулявіна». Аднак яшчэ ў ЭД «Янка Купала» (1982) Міхась Шавыркін пазначае гэтую песню як твор на верш паэта. Чаму ж песня аказалася народнай? З-за таго, што на кружэлцы былі ажно тры Купалавы вершы з... 10-ці (і гэта ў 1974 годзе!) ці з-за супадзення з аўтэнтычным народным тэкстам? А мо просты рэдактарскі недагляд?

### «Гусляр» з гітарным сола

Паводле ЭД «Янка Купала» ў 1972-м ансамбль пачынае працу над буйным творам – «Песняй пра долю». Гэта – опера-прытча Уладзіміра Мулявіна (цяпер яе можна смела назваць першай беларускай рок-операй) заснавана на тэксце «Адвечнай песні» Янкі Купалы, а таксама на шэрагу ранніх твораў паэта. Лібрэта напісаў музыкант ансамбля Валерый Яшкін. На жаль, афіцыйных запісаў «Песні пра долю» не захавалася, але ёсць шэраг аматарскіх. Яны даюць магчымасць ацаніць знаходкі Мулявіна, якія сталі сапраўдным адкрыццём у савецкай рок-музыцы. Безумоўна, вартыя ўвагі пастаянныя сола інструменталістаў і неверагодныя вакалізы спевакоў. Да ўсяго, калектыў «разросся» ажно да 15 чалавек, у ім упершыню з'явілася жанчына – Людміла Ісупава (Мядзведка).

Ролю Купалы выканаў сам кампазітар і кіраўнік ансамбля, а Мужыком і Пастушком выступіў Анатоль Кашапараў. Працягласцю амаль у гадзіну опера месцамі падаецца крыху зацягнутай, у ёй адчуваецца імкненне да паказу ўсеагульнага жыцця беларускага селяніна, аднак з-за гэтага пакутуе развіццё падзей у творы.

«Песня пра долю» цягам некалькіх гадоў пабывала на розных пляцоўках СССР і замежжа. Сам Уладзімір Мулявін лічыў гэту праграму самай паспяховай.

Незвычайную папулярнасць напаткала і рок-оперу Ігара Лучанка «Гусляр» паводле паэмы Янкі Купалы «Курган». Яе студыйны запіс выйшаў у 1980 на фірме «Мелодыя». Выданне плыткі наспела даўно, бо час стварэння вызначаецца як 1976 год, а канцэрты з творам адбываліся некалькі год да рэлізу. Рок-опера заснавана на кантаце Ігара Лучанка, перапрацаванай для ансамбля. Партыі Гусляра і Князя выканалі, адпаведна, Уладзімір Мулявін і Анатоль Кашапараў (на канцэртах – Уладзіслаў Місевіч). На жаль, «Гусляр» надоўга прабыў у канцэртнай праграме «Песняроў», бо ўжо наспявалі новыя цыклы на вершы Янкі Купалы.

### «Раскіданыя» песні з «Раскіданага гнязда»

Да 100-годдзя Янкі Купалы ў 1981 годзе былі зняты фільм «Раскіданае гняздо» (рэжысёр Барыс Луцэнка). Кампазітарам стаў Сяргей Картэс, а выканаўцамі музычных партый – «Песняры». Творы, што гучаць у выкананні ансамбля ў фільме – «Снег», «Былі ў бацькі тры сыны», «На Купалле», «А хто там ідзе?» (паводле ЭД «Янка Купала» і матэрыялаў Інтэрнэта). Пакуль вядома толькі песня «На Купалле», што прадстаўлена расійскімі прыхільнікамі ансамбля на сайце www.pesnyary.com. Астатнія творы да гэтага часу невядомыя.

Другая спроба стварыць саундтрэк для кіно зроблена ў 1987 годзе, калі рэжысёр Уладзімір Арлоў здымаў тэлефільм «Камедыянт», прысвечаны творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Акрамя твораў «Песняроў» на вершы самога «камедыянта», фільм агучылі некалькімі песнямі на вершы Янкі Купалы (аўтары песень Уладзімір Мулявін і Дзмітрый Яўтуховіч). Мулявінская «І як тут не смяяцца?» загучала па-беларуску (больш распаўсюджаны рускамоўны варыянт 1982 года), але сапраўдным адкрыццём стала песня Яўтуховіча «Не кляніце мяне», створаная з урыўкаў ранняга верша паэта. Яна была запісана ў некалькіх варыянтах, а на запіс музыкі аркестрам прымяралі свае сілы і Мулявін, і Барткевіч, і Кашапараў. Апошняя версія, відаць, не захавалася, а першыя колькі гадоў таму былі прадстаўлены ў Інтэрнэце самім кампазітарам, што цяпер жыве ў ЗША. Дадамо, што ў фільм увайшло больш простае студыйнае аранжаванне.



***Уладзімір МУЛЯВІН:** «Да Купалы ў мяне адносіны асобыя не толькі таму, што ён мой любімы паэт, у паэзіі якога я знаходжу адказы на многія пытанні, што хвалююць мяне. Як і ў Біблії. Як у Шэкспіра і Пушкіна. Акрамя ўсяго іншага, паэзія беларускага Песняра вельмі музычная, яго вершы арганічна і гарманічна кладуцца на музыку. Сам я гляджу на свае праграмы з двух бакоў: перша за ўсё – што не атрымалася, а ўжо пасля – што адбылося. Думаю, што ўсё мае «купалаўскія» рэчы больш-менш (не мне меркаваць) усё ж атрымаліся».*



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



## Мулявін – голасам Купалы

Адна з вяршыняў купалаўскай любоўнай лірыкі – «Явар і каліна» – трапіла ў рэпертуар «Песняроў» з-пад пяра кампазітара Юрыя Семянякі. Першым і, пэўна, адзіным яе выканаўцам быў Леанід Барткевіч. Запіс выйшаў у 1979 годзе на 4-м альбоме ансамбля.

А наперадзе была эпоха буйных музычных праграм, у якіх, згадваючы словы Уладзіміра Мулявіна, абавязкова прысутнічала паэзія Янкі Купалы. І сапраўды, праграмы «Я нясу вам дар», «Праз усю вайну», «Праграма песень і рамансаў на вершы Янкі Купалы», «Голас душы», «Вольніца» цалкам ці часткова пабудаваны на спеўным слове паэта.

Самае важнае месца для беларускай культуры займаюць купалаўскія цыклы «Я нясу вам дар» і «Праграма песень і рамансаў...». Зазначым, што сам Уладзімір Мулявін быў знаёмы з паэзіяй Янкі Купалы, у інтэрв'ю прыводзіў прыклады нават з ранніх вершаў паэта, пацвярджаючы паходжанне слова «пясняр».

«Я нясу вам дар» быў створаны да 100-годдзя са дня нараджэння паэта, прычым 4 песні з тузіна былі... перакладамі на рускую мову. Большасць з такіх выконваў сам Мулявін (аўтар музыкі праграмы), таму можна ў нечым пагадзіцца з тагачаснымі крытыкамі, што пісалі пра моўны бар'ер спевака – рускага па нацыянальнасці. Аднак знакавыя песні «Над калыскай» (з геніяльнымі, на мой погляд, што да лёсу беларусаў, словамі «Янка сеяў – людзі жалі») і «Я не паэта», выкананыя Мулявіным, прагучалі па-беларуску. Дарэчы, пасля ролі Купалы ў «Песні пра долю» і Гусляра ў «Кургане» Мулявін зноў аказаўся голасам паэта, што відавочна пасуе яму і як артысту, і як асобе. Калі кіраўніку ансамбля выпалі песні грамадзянскага і сатырычнага гучання, то Анатолю Кашапараву, Валерыю Дайнэку ды Ігару Пеню дасталіся лірычныя і жартоўныя: «Ты мне песню спей, дзяўчына», «Плыве рэчачка», «Людка», «Марыся» і інш. З усіх песняў найдаўжэй засталася ў рэпертуары калектыва «Марыся», афіцыйна ж выдалі толькі палову.

Калі названы цыкл быў яшчэ відавочна разнастайным па сваёй пабудове і мала акцэнтаваў увагі на грамадзянскасці Купалы-паэта, то створаная ў 1988-м «Праграма песень і рамансаў...» атрымалася куды больш смелай. Гэта звязана з перабудовай у СССР і са стварэннем крыху раней цыкла «Во весь голос!» на вершы Уладзіміра Маякоўскага, дзе рускі паэт прагучаў па-новаму, рашуча і праўдзіва. Купалаўская праграма ўключыла паасобныя творы з «Я нясу вам дар» у новых аранжыроўках, а таксама песні «За ўсё», «На тэму крытыкі», «Бабулька-прадаўшчыца зёлак» і інш. У многіх з іх Купала і «Песняры» прагучалі то нечакана з'едліва, а то спавядальна-трагічна. Новы час дазволіў аўтару музыкі і ідэйнаму натхняльніку цыкла Уладзіміру Мулявіну пазбавіцца шмат якіх замоўчванняў, адкрыць паэта па-новаму. З дзесятка песень сёння ў запісах рознай якасці вядома толькі палова твораў.

Наогул, адсутнасць афіцыйных запісаў – не дзіва, бо толькі малая колькасць песень была запісана на плыткі, астатнія ці запісваліся ў «падпольных» умовах, ці з пультаў гукарэжысёраў, ці на аматарскую тэхніку. Таму, магчыма, некаторыя песні ўзнавіць ужо немагчыма.

У 1984-м у межах праграмы «Праз усю вайну» была запісана песня «Беларускім партызанам», што папоўніла скарбонку грамадзянскай песні ў актыве «Песняроў».



## «Незалежная» «Малітва» і зніклы «Казак»

Першай у 1990-х песняй, якую выканаў легендарны ансамбль на словы Янкі Купалы, стала «Малітва» кампазітара Алега Моўчана. Прэм'ера адбылася на сцэне віцебскага «Славянскага базара» ў 1994-м на 25-цігоддзі «Песняроў». Песня – кантамінацыя 2-х вершаў паэта: куплеты – строфы з «Маёй малітвы» («Я буду маліцца і сэрцам, і думамі...», 1906), а прыпевы – з аднайменнага твора з першым радком «Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе...», 1912). У адрозненні ад аўтарскага тэксту, у песні адбыліся некаторыя змены: у першым куплеце паэтычнае «распетаю буду маліцца душой» заменена на «распятаю», а слова «загон» у прыпеве заменена «народам». Падаецца, змены толькі падкрэслілі асабістасць словаў «Малітвы» для Песняроў – Купалы і Мулявіна, што і напраўду моляцца гэтымі словамі «за родны народ Беларусі».

«Малітва» – дамінанта праграмы «Голас душы», што, бадай, цалкам і не пабачыла свет (з дзесятка песень толькі асобныя вядомыя шырока: «Чырвоная ружа», «Вячэрні звон», «Малітва»). Узровень эмацыянальнасці і сілы ўздзеяння на слухача, уласцівы «Малітве», «Песнярам» не ўдалося пераўзыйсці ў наступнай творчасці, ды і многае з папярэдняга паблёкла перад яе нязвыклым духоўным багаццем, шчырасцю і навізной на эстрадзе постсавецкай Беларусі.

З другім жа творам «Песняроў» на словы Янкі Купалы «Я казак – не казак» зноў загадка. Пра песню сустракаюцца згадкі, прычым звестак пра выкананне няма. Адзіным дакладным сведчаннем – інтэрв'ю Уладзіміра Мулявіна, дзе ён паведамляе, што песня падрыхтавана ансамблем у межах праграмы «Вольніца», прысвечанай беларускаму казацкаму руху. Лішне казаць, што запісаў твора пакуль не было ні на CD, ні на Інтэрнет-сайтах.

Застаецца дадаць, што пасля расколу ў 1997 годзе, новы склад «Песняроў» аднавіў з купалаўскіх цыклаў песні «Спадчына», «Марыся» і «Малітва». На жаль, усяго пяць гадоў (з 1997 па 2002) з гэтым складам працаваў і ствараў Уладзімір Мулявін, прычым большасць часу была згублена на вырашэнне канфліктаў з былымі калегамі, аднак песні пісаліся і ў такі нервовы, напружаны час. Верыцца, што з чарнавых запісаў таго часу мы таксама некалі зможам пачуць Купалава спеўнае слова ў выкананні Мулявіна.

## Каму «Волагду» – каму Купалу

Адразу пасля расколу ансамбля яго ўдзельнікі, што сталі «Беларускімі песнярамі», запісалі песню «Жалейка». З уласна «песняроўскай» спадчыны засталася хіба толькі «Марыся» ў выкананні Ігара Пені.

ВІА «Песняры» пад кіраўніцтвам Леаніда Барткевіча, а таксама яго філіял пад кіраўніцтвам Ігара Свечкіна і наогул забыліся на купалаўскую музычную спадчыну легендарнага ансамбля. Можа, яна занадта сур'ёзная, калі глядач хоча пачуць «Волагду-гду»? Згадваюцца хіба запісы з сольных альбомаў Барткевіча, аднак яны датуюцца канцом 1980-х.

Створаны былым «бубначом» «Песняроў» Аляксандрам Дзямешкам калектыў «Лявоны-Песняры» і наогул не мае дачынення да беларускай культуры.

Адзінае прыемнае выключэнне – Беларускі дзяржаўны ансамбль «Песняры». Хоць у яго і набралі абсалютна новых музыкантаў (з Мулявіным працавалі хіба толькі Валерый Скаражонак і Вячаслаў Шарапаў), – гэта адзіны ансамбль з пяцёркі, што працуе ў Беларусі. Яны, па-першае, вяртаюць стары рэпертуар калектыву, а таксама рыхтуюць новыя праграмы. У канцы года абяцаюць прадставіць цыклы песень да юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа, чым не толькі парадуюць прыхільнікаў беларускай песні, але і адраджаюць традыцыі буйных «песняроўскіх» праграм.

***Пакуль перад прыхільнікамі і музыказнаўцамі застаецца шэраг пытанняў, мабыць, без адказу. Напрыклад, дзе запісы дзесяткаў твораў на вершы паэта? Адказаць на гэтае і падобныя пытанні – абавязак, найперш, перад будучыняй, дзеля захавання спадчыны Песняроў – Купалы і Мулявіна.***

*Сяргей ТРАФІЛАЎ*

*Здымкі Ул. Мулявіна і «Песняроў» 1970-х гадоў з кнігі «Нота судьбы» і Інтэрнета*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–27)*

Як пазначана ва ўспамінах іхняга старэйшага сына, Данілы (1914–1996), у яго пасмяротнай кнізе «Любіць і помніць» (Мн., 2000), «мама нарадзілася 8 (7) лютага 1891 года ў Ашмянах у сям'і святара... Прыслалі псаломшчыка з Яраслаўскай губерні Расіі, як і многіх другіх дзеячаў царквы, накіраваных для ўмацавання праваслаўя на Беларусі і ў Польшчы пасля паўстання 1863 года». Колас пасябраваў з жончынымі роднымі, якія «былі людзьмі працавітымі, поўнымі дабрыні і спагадлівасці да іншых» (адзін з іх, Коласаў швагер, былы святар і выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Казанскага ўніверсітэта Аляксандр Дзмітрыевіч, звыш 20 гадоў, да арышту, жыў у Коласавым доме, а перад гэтым быў «душой і арганізатарам будаўніцтва» яго). Гэта значыць, у цяперашні парку імя М. Горкага, там, дзе цяпер розныя атракцыёны, менавіта Коласаў швагер, Аляксандр Каменскі завозіў бярвёны і спрыяў узводзіць першы салідны Коласаў дом, які будзе разбураны ў час вайны і канчаткова знішчаны пасля яе.

Яшчэ слова Данілу Канстанцінавічу: «Аляксандра Дзмітрыевіча Каменскага арыштавалі ў ноч з 5 на 6 лютага 1938 года... Арышт... стаў невыпадковым... Каменскага вымушалі даць паказанні на паэта Якуба Коласа... У той час органы НКУС рыхтавалі новую "справу", гэты раз на Коласа, Купалу, Бядулю, Броўку, Глебку, Багатырова... Бацька хацеў дабіцца прыёму ў Цанавы (наркама ўнутраных спраў БССР) па справе А.Дзм. Каменскага, але яму там сказалі: "Товарищ Цанава Вас сегодня не примет и вообще не примет никогда"... А тут пачалася вайна, і ўсе надзеі зніклі. Загінуў наш дзядзька Саша невядома дзе і калі, як і многія мільёны людзей – ахвяраў ГУЛАГаў».

Загінулі вось так і іншыя многія Коласавы сваякі, якія жылі ў яго доме, знаёмыя, якія таксама часта мелі тут жыллёвы прытулак альбо нярэдка завітвалі ў госці і якіх заўсёды ветліва і па магчымасці шчодра сустракала, праводзіла задушэўнымі беларускімі песнямі Марыя Дзмітрыеўна... Адпаведна, невыпадкова ў 1913-м Колас напісаў асабіста ёй, маладзейшай, прыгожай, прыхільніцы ягонага таленту, каханай і закаханай, нямала сардэчных радкоў, але не зусім зразумела, чаму ён так паасцерагаўся выказаць свае асабістыя пачуцці: многія выдатныя паэты свету сталі менавіта такімі, што зажадалі і здолелі апісаць, узвысіць ЖАНЧЫНУ і свой свет любові да яе, што глыбока кранала мільёны як сучаснікаў, так і наступных пакаленняў. Каханне – гэта боскі дар, і пра яго трэба ўмець сказаць. Што да Коласа, то ў яго ў гэтай справе, мабыць, узялі верх славянская сціпласць, нежаданне выносіць сваё асабістае на людскі суд – як тактоўны, так, можа быць, і насмеліва-здзеклівы...

З падзей названага перыяду важна падкрэсліць і тую, што адбылася 8 лістапада ў Пецярбургу. Там беларускія студэнты, як маглі, прапагандавалі творчасць лепшых беларускіх пісьменнікаў.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





*Да юбілею Песняра*

# З імем Купалы — у сэрцы

***У аўтабіяграфіі «Пра сябе» я пісаў пра тое, што яшчэ ў сямігодцы, дзякуючы сваёй настаўніцы, якая выкладала рускую і беларускую літаратуры, палюбіў вершы Янкі Купалы. Цяпер, прыгадваючы тую далёкую пару, пачынаю разумець, што адыграла ў гэтым немалаважную ролю.***

Час маёй вучобы ў сямігодцы прыпаў на 1931–1934 гады. А тады яшчэ не настолькі схаластычна былі ідэалагізаваны падручнікі, як пазней. Ва ўсякім разе тагачасная школьная праграма, відаць, не забараняла настаўніцы выкладаць літаратуру менавіта як прыгожае пісьменства. Не ведаю, ці паводле праграмы, ці адпаведна густу настаўніцы, але творы, якія мы праходзілі, чыталіся ў класе ўголас. Пасля чытання настаўніца распытвала ў вучняў, якімі мастацкімі сродкамі карыстаецца пісьменнік, як выказвае сваю думку.

Ці таму, што я не надта ўважліва паводзіў сябе на ўроках, ці, можа, таму, што чытаў уголас выразней, чым іншыя, але настаўніца чамусьці даручала чытаць толькі мне. Я паварочваўся тварам да ўсяго класа, сядаў на накрыўку пярэдняй парты, паставіўшы ногі на сядзенне і, трымаючы на каленях кнігу, чытаў уголас патрэбны верш або апавяданне. Да гэтага часу памятаю, як чытаў я такім чынам «Тамань» Міхаіла Лермантава, «На прасторах жыцця» Якуба Коласа. Прычым, чамусьці з аднолькавай сілаю ўздзейнічалі на маю дзіцячую душу, уражвалі мяне і, здавалася, пераклікаліся вершы Мікалая Някрасава з вершамі Янкі Купалы, вершы Міхаіла Лермантава з вершамі Максіма Багдановіча.

Праўда, творы Янкі Купалы (а вывучалі мы тады вершы «Мужык», «Там», «Перад вісельняй», «Ворагам беларушчыны», паэмы «Курган» і «Магіла льва») не маглі, вядома, не абуджаць у мяне нацыянальнай свядомасці, бо прымушалі задумацца над тым, сынам якога народа я з'яўляюся. Не кажу пра тое, што сціслыя па форме і сканцэнтраваныя па думцы паэмы «Курган» і «Магіла льва» захаплялі займальнасцю сюжэта і музычнаю інструментоўкаю верша. Я зачытваўся імі дома, а «Кур, ан» і паасобныя месцы з «Магілы льва» ведаў на памяць і часта дэкламаваў уголас, ідучы за шэсць кіламетраў у школу.

Янку Купалу я ўпершыню ўбачыў ранняй восенню 1938 года, калі ён выйшаў з Дома пісьменнікаў. Як зачараваны дзівак, пайшоў услед за ім па праспекце, міма польскага консульства, кінатэатра «Чырвоная зорка», тэатральнага сквера, за будынкам педтэхнікума перайшоў праспект налева і назіркам суправаджаў паэта да самага яго дома.

Гэты дом, што патанаў тады ў зеляніне і кветках там, дзе цяпер стаіць будынак Літаратурнага музея Янкі Купалы, як магнітам прыцягваў увагу не аднаго мяне. Помню, як у душы зайздросціў свайму прыяцелю Альфрэду Радзюку (Алесю Салаю), з якім зблізіўся ў час вучобы на месячных курсах маладых пісьменнікаў, што ён жыве ў педтэхнікумаўскім інтэрнаце амаль побач з домам Янкі Купалы. Я нейкі адночы праходзіў да прыяцеля, каб як-небудзь лішні раз убачыць паэта на яго нашым падворку, пакуль аднойчы не трапіў у няёмкае становішча, апынуўшыся не па сваёй волі ў Купалавым доме.

Газету «Піянер Беларусі», у якой я працаваў адначасова з вучобаю ў педінстытуце, рэдагаваў вельмі сур'ёзны і ўдумлівы чалавек. Ён не цярпеў, каб рэдакцыйныя супрацоўнікі па тэлефоне заказвалі аўтарам матэрыялы, а заўсёды патрабаваў, а часта і сам накіроўваў нас на кватэру да вядомых дзеячаў. Аднойчы ён паслаў мяне па вершы да Янкі Купалы.

Сарамлівага, да глыбіні душы ўсхваляванага, мяне ветліва сустрэла ў доме жанчына – Уладзіслава Францаўна, жонка Янкі Купалы, і правяла ў пакой да паэта. Даведаўшыся, чаго я прыйшоў, Янка Купала разгублена развёў рукамі і неяк вінавата апраўдваючыся, сказаў, што, на жаль, не мае нічога такога, што мог бы прапанаваць дзіцячай газеце.

У сваіх успамінах «Старонкі памяці» я ўжо часткова расказваў пра тое, як да вайны ў Доме пісьменнікаў аўтары абмяркоўвалі свае новыя творы.

Я не прапускаў ніводнага з гэтых абмеркаванняў. Праводзіліся яны на першым паверсе, ва ўтульнай гасцінай, справа перад уваходам у бібліятэку. Сама мэбля – з белымі чахламі мяккія крэслы, расстаўленыя вакол круглых столікаў з таршэрамі, – вымагала таго, што абмеркаванні праходзілі неяк па-сямейнаму. Збіралася на іх чалавек дванаццаць-пятнаццаць. Зрэдку прыходзіў сюды і Янка Купала.

Звычайна пры абмеркаванні ён не праяўляў актыўнасці, моўчкі слухаў і рэдка калі ківаў галавою, падтакваючы каму-небудзь. Быў ён вельмі далікатны і ціхмяны. Часам здавалася, што ягоны твар злёгку задумены. Але часцей на ім адлюстроўвалася дабрыня і пяшчота з непрыкметнай, ледзь улоўнай усмешкаю ў вачах і ў куточках вуснаў.

Ў маёй душы застаўся прыкры асадак ад недарэчнага выпадку, што адбыўся на адным з абмеркаванняў. Перад гэтым у нейкім перыядычным выданні прамільгнула задзірыстая публікацыя Андрэя Ушакова, у якой крытыкаваліся некаторыя слабыя мясціны ў вершах нашых старэйшых паэтаў. Калі б з такімі прэтэнзіямі выступілі ў друку Аркадзь Куляшоў або Пімен Панчанка ці нават Алесь Жаўрук, якія тады падавалі нам прыклад сваёй творчасцю, дык іншая справа. А Андрэй Ушакоў не вызначаўся сваімі вершамі. Цяпер не памятаю, хто з прамоўцаў і ў сувязі з чым даволі ў агульных рысах таксама намякнуў на паслабленне творчай працы старэйшых пісьменнікаў.

Трэба было бачыць, як гэты неабачлівы закід узбударажыў Янку Купалу. Да гэтага ён сядзеў спакойна і не падаваў голасу. А тут раптам прыкметна занерваваўся, крыўдліва прамармытаў: «Ужо і Купала піша кепска...», падняўся з крэсла і, нервова пастукваючы па падлозе кавенькаю, на якую злёгку абапіраўся, дэманстратыўна пакінуў пакой.

Ягоныя паводзіны ўразілі мяне. Тады, вядома, я не падазраваў, што давялося перажыць яму ў трыццатыя гады, і не разумеў, чаму гэтак абвострана ён рэагуе, здавалася б, на дробязную крытычную заўвагу, нават не ў яго адрас.

Запомніўся мне вялікі літаратурны вечар, што адбыўся ў Мінску апошняй перадваеннай зімою. Імянны запрашальны білет на яго, які я пасля вайны знайшоў у вёсцы сярод сваіх студэнцкіх канспектаў, аддаў у Літаратурны музей Янкі Купалы. Фармальна вечар праводзіўся ў сувязі з 35-годдзем творчай дзейнасці паэта. Хаця дата была не круглая, але цяпер я разумею, чаму яна адзначалася гэтак урачыста. Пасля пагалоўнага вынішчэння нацыянальных кадраў П.К. Панамарэнка, якога напярэдадні прыслалі з Масквы ўзначальваць рэспубліканскую партыйную арганізацыю, відаць, хацеў супакоіць і задобрыць беларускую інтэлігенцыю.

Тэатр оперы і балета быў запоўнены народам. У прэзідыуме разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам сядзелі кіраўнікі ўрада і госці з Масквы і іншых рэспублік. Даклад аб жыцці і творчасці Янкі Купалы зрабіў акадэмік С.Я. Вальфсон. Ад імя пісьменнікаў Савецкага Саюза паэта вітаў Аляксей Суркоў, ад украінскіх – Тэрэнь Масэнка, ад літоўскіх – Антанас Венцлава, ад беларускіх – Кандрат Крапіва і Піліп Пестрак, ад яўрэйскіх і Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра – Самуіл Галкін, які зачытаў таксама прывітальны ліст юбіляру ад выдатнага рускага драматурга Канстанціна Трэнёва.

Я з цікаўнасцю разглядаў Самуіла Галкіна, бо ведаў, што ён нарадзіўся на Беларусі. Ягоныя п'есы «Бар-Кохба» і «Суламіф», што незадоўга да гэтага былі напісаны, ішлі на сцэне Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра ў Мінску.

Але з асаблівым хваляваннем назіраў я за тым, як вітаў Янку Купалу, чытаў прысвечаны яму свой верш Сяргей Гарадзецкі – таварыш і паплечнік Аляксандра Блока і Сяргея Есеніна. Я ведаў, што ён быў адным з першых акмеістаў і арганізатарам «Цэху паэтаў». У цэнтральнай бібліятэцы я прачытаў ужо ягоныя зборнікі вершаў «Ярь», «Перун», «Ива».

Як чытае свае вершы Янка Купала, я ўпершыню пачуў на пахаванні Эдуарда Самуйлёнка. У час выступлення пайшоў снег. Яго вялікія камякі павольна падалі на непрыкрытую галаву паэта, што ўзвышаўся, як прарок, над морам людскіх галоў. Ці таму, што паэт быў балюча ўзрушаны заўчаснай смерцю таленавітага празаіка і кароткі верш «Памяці Эдуарда Самуйлёнка» прачытаў на адным дыханні, са своеасаблівай жаласлівою інтанацыяй, ці таму, што жалобны настрой садзейнічаў успрыманню твора, але верш прагучаў даволі непасрэдна і кранув многіх на магілках.

Другі раз я слухаў Янку Купалу на вялікім літаратурным вечары ў актавай зале педагагічнага інстытута. Тады Якуб Колас, папярэдне параіўшыся з Янкам Купалам, блаславіў мяне ў дарогу.

Як бы ні быў я тады ўсхваляваны тым, што ў іх прысутнасці мне далі слова першаму, і якое расчараванне не адчуваў бы пасля свайго разгубленага выступлення, але ўсё роўна вельмі ўважліва слухаў, як выступалі яны абодва.

Зараз Янка Купала чытаў верш «А мы сабе сеем і сеем» і ўрывак з паэмы «Тарасова доля».

Ці ад таго, што выбраў ён доўгія для чытання рэчы, ці таму, што чытаў іх нараспеў, са звонкай працяжнасцю, трохі крывячы рот, ягонае чытанне на гэты раз здалося мне аднастайна-манатонным і нуднаватым. Пераконвала ў гэтым і тое, як расслаблена ўспрымала яго выступленне шматлюдная аўдыторыя, хаця я не сумняваўся, што пераважная большасць студэнтаў не толькі слухала, але і бачыла паэта ўпершыню.

Тады, вядома, я нават і не ўяўляў сабе, што з цягам часу лёс звядзе мяне з роднымі і блізкімі Янкі Купалы, з ягонай жонкай Уладзіславай Францаўнай, з ягонымі сёстрамі Марыяй Дамінікаўнай і Леакадзіяй Дамінікаўнай і яе сынам Янкам Рамановічам, што я буду бываць у іх дома, выступаць разам з імі на Купалаўскіх вечарах.

Праўда, адбылося гэта пазней, у першыя пасляваенныя гады, калі ўжо не было самога паэта, а на вызваленай беларускай зямлі ўшаноўвалі яго памяць і прапагандавалі ягоную творчасць.

Галоўным арганізатарам – ад вялікіх літаратурных вечароў да шматлікіх сустрэч на прадпрыемствах, у калгасах і навучальных установах – была Уладзіслава Францаўна, або цёця Уладзя, як пяшчотна называлі яе многія.

У далейшым усё сваё жыццё яна цалкам прысвяціла гэтай пачэснай і высакароднай справе. Працы ў гэтым напрамку вельмі спрыяла тое, што жылі яны разам з сястрою Янкі Купалы Марыяй Дамінікаўнай, якая займалася хатнімі гаспадарчымі справамі. Спачатку кватэра іх знаходзілася на праспекце ў старым цагляным доме, які пасля быў зруйнаваны, а пазней – на другім паверсе невялікага асабняка, насупраць польскага консульства, па вуліцы Румянцава.

Уладзіслава Францаўна была дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы – спачатку ў Доме прафсаюзаў на плошчы Волі, а пазней па вуліцы Энгельса, у старым будынку Саюза пісьменнікаў, дзе пасля размясцілі паліклініку Літфонду.

Я не сумняваўся ў тым, што толькі дзякуючы энергіі і турботам Уладзіславы Францаўны было распачата і ў 1959 годзе закончана будаўніцтва новага памяшкання Літаратурнага музея. Канечне, займацца ўшанаваннем памяці паэта, выданнем яго кніг і прапагандай яго творчасці ёй было прасцей, чым каму-небудзь іншаму, бо яе ведалі многія кіраўнікі рэспублікі. Некаторым яна проста званіла па тэлефоне, а калі было вельмі неабходна, наведвала іх асабіста. Можа, таму многія члены ўрада заўсёды прысутнічалі на агульнагарадскім Купалаўскім вечары, які штогод праводзіўся тады ў будынку акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Адны з іх, мусіць, адчувалі святы абавязак перад памяццю паэта, што не вярнуўся ў вызвалены Мінск, дый ведалі і паважалі Уладзіславу Францаўну, другія проста вымушаны былі раўняцца на першых і міжвольна падтрымлівасць заведзены распарадак. Я ўжо не кажу пра пабочных і асабіста незнаёмых ёй людзей, якія часам бянтэжыліся, калі даведваліся, хто гэта перад імі.

Аднойчы мы ўначы вярталіся пасля выступлення ў Вязынцы. Па баках паводдаль ад дарогі сялян палалі купальскія вогнішчы. І раптам нашу аўтамашыну спынілі ўзброеныя афіцэры і асвяцілі нас ліхтарыкамі. Калі Уладзіслава Францаўна апярэдзіла шафёра і падала ім свае пасведчанне, яны, заглянуўшы ў яго, збянтэжана аддалі чэсць і рэціраваліся.

Часам даводзілася назіраць і іншае. Аднойчы я быў у кабінеце аднаго з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў і міжвольна стаў сведкаю тэлефоннага званка Уладзіславы Францаўны, якая прасіла пасадзейнічаць у арганізацыі чарговага Купалаўскага вечара. Кіраўнік адгаворваўся, спасылаючыся на занятасць. А пасля заканчэння тэлефоннай размовы два нашы вядомыя пісьменнікі, што таксама прысутнічалі там, на маё здзіўленне, пачалі падтрымліваць свае начальства. Маўляў, няўжо яна хоча штогод праводзіць Купалаўскія вечары?

І я падумаў тады: ці гэта зайздрасць чужой славе, ці гэта лянота і непаваротлівасць робіць людзей абыякавымі, нават там, дзе, здавалася б, яны павінны быць чулымі і добразычлівымі.

Праўда, і сярод высокага начальства трапляліся людзі, якія не толькі з-за павагі да Уладзіславы Францаўны прыхільна ставіліся да Купалаўскіх мерапрыемстваў, але і таму, што ў сэрцы насілі светлы вобраз вялікага паэта.

*Мікола АЎРАМЧЫК*



*Вязынка, 1945 год. У. Луцэвіч з землякамі Я. Купалы (Ю. Замбжыцкі паказвае дом, дзе нарадзіўся паэт). Здымак з фондаў Літаратурнага музея Я. Купалы*



**Пружанскія гандлёвыя рады – для бойкага торгу**

*Землякі*

# Ягонае імя ўслаўляла Койданава

**Спачатку звернемся да кнігі «Еврейская Энциклопедия. Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем» (Т. 9, Спб., Б.г.; Рэпр. Выд. М., 1991): «Койданава у эпоху Рэчы Паспалітай мястэчка Мінскага ваяводства. У 1766 г. у кагале налічвалася 560 плацельшчыкаў падушнага падатку. Цяпер гэта мястэчка Мінскага павета і губерні. Па рэвізіі 1847 г. "койданаўскае яўрэйскае таварыства" складалася з 2 497 душ; паводле перапісу 1897 г. у Койданаве 4 744 жыхары, сярод якіх 3 156 яўрэяў. У 1910 г. адно прыватнае мужчынскае яўрэйскае вучылішча».**

Крыху раней гэтая ж энцыклапедыя падае звесткі пра бацьку і сына Койданавер (Койданавец), якія гэтае прозвішча, ці мянушку, атрымалі ад месца жыхарства свайго продка – мястэчка Койданава. Прынамсі, яўрэям былі ўласцівыя такія прозвішчы, як Амстэрдам, Гамбург Вітабскі, Слуцкі і г.д. Таму звернемся ізноў да згаданай энцыклапедыі:

«Койданавер, Арон Самул бен Ізраіль – вядомы літоўскі талмудыст, нарадзіўся ў Вільні ў 1614 г., памёр у Кракаве каля 1676 г. Бацька Койданавера, Ізраіль, жыў у Койданаве каля Мінска, дзе знаходзілася каталіцкая семінарыя. Талмудыскую і рабінскую адукацыю Койданавер атрымаў у Брэст-Літоўскім ешыбоце, спярша пад кіраўніцтвам Якава Гэшэля, і сына ягонага, Ешуі Гэшэля. Койданавер быў рабінам у Белай (ля Брэста), адкуль ад жахаў казацкага паўстання ўцёк у Вільню, а адтуль у Люблін, дзе ён страціў сваю каштоўную бібліятэку і былі забіты ягоныя дзве дачкі (1656). Адтуль Койданавер сышоў у Маравію. Ён займаў рабінскія пасады ў Мікольсбургу, Глогаве, Фюрце, Франкфурце-на-Майне і, нарэшце, па вяртанні ў Польшчу, у Кракаве. Койданавер памёр у Хмельніку пад час пасяджэння рабінаў. Койданаверу належаць наступныя творы: "Birchat ha-Zebach", навэлы да талмудыскіх трактатаў раздзела Кадашым (за выключэннем Хулін і Бехарат) з прадмовай-аўтабіяграфіяй (выдадзена зяцем Койданавера Нахумам Кагенам, братам Сабатая Кагена; Амстэрдам, 1669); другое выданне з каментарам "Omer Man", 1773; "Birchat Schemuel", казанні на тэмы з Торы, з дадаткамі сына аўтара, Цэві Гірша, выдаўца гэтага твора (Франкфурт-на-Майне, 1682); "Emunat Schemuel", 60 рэспонсаў па пытаннях шлюбнага права, таксама выдадзеных сынам аўтара (ib., 1683); "Tiferet Schemuel", навелы да розных талмудыскіх трактатаў (ib., 1692). Нататкі да Хашэн Мішпат, якія змешчаны ў апошнім з названых твораў, надрукаваны ў "Ture Zahab" (Гамбург, 1692). Койданавер таксама склаў працу пад назвай "Seder Gitin we-Chaliza" (рукапіс калекцыі Апенгейма).

Койданавер (Кайдановер) Цэві Гірш – мараліст і кабаліст; нарадзіўся ў Вільні, памёр ва Франкфурце-на-Майне. Ён быў сынам Арона Самула Койданавера. Кабалу Койданавер вывучаў у Есіпа бен Юда з Мінска. Па ілжывым даносе Койданавер разам з сям'ёю пакутаваў 4 гады ў астрозе. Пазней адправіўся ва Франкфурт, дзе распачаў літаратурную працу. Ён выдаў творы бацькі, якія часткова забяспечыў заўвагамі (як "Birchat Schemuel"). Найбольш вядомы павучальны твор Койданавера "Kaw ha-jaschar" ("Правільная мера"), які з'яўляецца перапрацоўкаю і дапаўненнем працы "Jesod Josef" Есіпа Дубны (верагодна, тоесная з узгаданым вышэй настаўнікам). Кніга складаецца з 102 раздзелаў, што адпавядае першай часцы загалоўка (102); другая частка "ha-Jaschar" – анаграма імя аўтара. Кніга насычана змрочным аскетызмам, уласцівым той эпосе прыгнёту польскага яўрэйства. Дэманы і чэрці адыгрываюць значную ролю ў гэтай кнізе. "О чалавек, – усклікае аўтар, – калі б ты ведаў, колькі д'яблаў прагнуць тваёй крыві, то ты падначаліўся б цалкам і целам, і душою Спадару Богу"; пра д'яблаў прыводзяцца "дакладныя" аповеды. Кніга выдавалася шматразова. Аўтар склаў яшчэ нямецка-яўрэйскі яе пераклад, які друкаваўся часта разам з яўрэйскім арыгіналам і зрабіўся ўлюбёным чытвом жанчынаў і мужчыча».

*Алесь БАРКОЎСКІ,*
*капітан-механік ц/п АС-21 ААТ СК «Якуцк» (Рэспубліка Саха)*

# Яўрэі Кажан-Гарадка ў XVII стагоддзі – жніўні 1942 года

***Яўрэі пасяліліся ў Кажан-Гарадку не пазней XVII стагоддзя. У 1646 годзе, 21 красавіка, Марк Давыдавіч, арандатар «городка названного Кожангородецкого в воеводстве Новогородецком будучего», напісаў скаргу ў Пінскі гарадскі суд.***

Як бачна з імені гэтага чалавека, арандатар быў яўрэй. Наўрад ці ў Кажан-Гарадку ён быў адасобленым ад яўрэйскай абшчыны: звычайна яўрэі сяліліся гуртом. Да таго ж і пасаду Марк Давыдавіч займаў высокую, што дазваляла яму акружыць сябе ў Кажан-Гарадку яўрэямі-пасяленцамі.

У 1679 годзе пінскія жыхары пазычылі Лагішынскаму езуіцкаму манастыру 1 500 злотых, а сярод яўрэйскіх абшчын, якія пералічвалі грошы, упамінаецца і Кажан-Гарадок.

1766 год – яўрэйская абшчына ў Кажан-Гарадку стала самастойнай.

1795 год – у мястэчку 129 хрысціянскіх і 21 яўрэйскі двор. Лёгка падлічыць, што 14 % двароў належала яўрэям.

Яўрэйскае насельніцтва Кажан-Гарадка хутка расце: калі ў 1870 годзе тут быў адзін малітоўны дом, то праз 26 гадоў – 2. З завяршэннем у 1870-х гадах будаўніцтва Палескіх чыгунак і ператварэннем Лунінца ў вузлавую станцыю, значная колькасць кажан-гарадоцкіх яўрэяў перасялілася ў Лунінец. Колькасць яўрэйскага насельніцтва пачала хутка расці ў Лунінцы, але амаль да канца XIX стагоддзя лунінецкія яўрэі не мелі нават сваіх могілак, што бачна з прыведзенага ніжэй архіўнага дакумента:

«Минское Губернское Присутствие, препровождая прошение мещан пос. Лунинца Мордуха и Мовши Гофштейнов, Давида Гринштейна и других... о приобретении ими у крестьян с. Лунинца Константина Санюковича и Николая Павлюковца 1 860 кв. сажен для устройства лунинецкого еврейского кладбища. ...Участок земли, продаваемый под еврейское кладбище... представляет собой гористую песчаную бесплодную площадку верстах в 3-х от Лунинца. Евреям кладбище крайне необходимо, т.к. теперь им приходится хоронить умерших в м. Кожан-Городке в 14 верстах от Лунинца, что при значительности еврейского населения и его бедности является тяжким бременем».

Паводле перапісу 1897 года колькасць насельніцтва Кажан-Гарадка – 3 294 чалавекі, з іх – 1 597 яўрэяў. Такім чынам, яўрэі ўжо складалі 48 % насельніцтва гэтага мястэчка.

***

У часы польскай улады сярод яўрэяў Кажан-Гарадка значна распаўсюдзіліся камуністычныя настроі. Арганізатар камуністычнай ячэйкі Хаім Белагуцкі лунінецкім судом быў асуджаны на 4 гады турмы. Выязная сесія суда працягвалася 3 дні. І тры дні будынак суда быў абкружаны народам. Суддзі не асмеліліся чытаць прысуд у Лунінцы, таму чыталі яго ў Пінску... Прысуд быў аб'яўлены пінскім акруговым судом 23 лютага 1933 года і пацверджаны 4 ліпеня апеляцыйным судом у Вільні.

Як сведчаць дакументы павятовай паліцыі, у Кажан-Гарадку дзейнічалі наступныя яўрэйскія грамадскія арганізацыі:

а) аддзяленне яўрэйска-асветніцкага таварыства «Таргут», створанае ў Кажан-Гарадку ў 1925 годзе. Налічвала 15 сяброў. Старшыня Міхэль Мазе, сімпатыя сіяністкай арганізацыі. Дзейнасць таварыства слабая, сродкаў амаль не было;

б) «Грамадства апекі над яўрэйскімі сем'ямі на Палессі». Аддзяленне ў Кажан-Гарадку створана ў 1926 годзе. Налічвалася 116 сяброў. Старшыня – Менахім Дрэбскі (сіяніст). Дзейнасці не праяўляла;

в) яўрэйская дабрачынная арганізацыя «Гемулус Хэсэд». Аддзяленне ў Кажан-Гарадку створана ў 1927 годзе. Налічвалася 95 сяброў. Старшыня Ёсель Луцкі (сіяніст). Дзейнасць – актыўная. Аб фінансах звестак няма. Палітычнага ўплыву (на арганізацыю) не было;

г) «Саюз яўрэйскіх рамеснікаў». Аддзяленне ў Кажан-Гарадку ўзнікла ў 1928 годзе. Налічвала 400 сяброў. Старшыня Міхель Голін (падазраваўся ў палітыцыі у камунізме). Дзейнасць слабая. Сродкі – членскія ўзносы. Уплыў КПЗБ даволі моцны.



*Інтэр'ер залы Кажан-Гарадоцкай сінагогі (фота 1920-х гадоў)*

***

1 верасня 1939 года Германія, а 17 верасня СССР распачалі вайну супраць Польшчы, і ў Заходнюю Беларусь хлынуў паток уцякаючых ад германскіх расістаў яўрэяў. Яўрэі Кажан-Гарадка з радасцю сустракалі ўстанаўленне савецкай улады ў Заходняй Беларусі.

У настаўніцкім калектыве Кажан-Гарадоцкай школы ў пачатку германа-савецкай вайны працавала мясцовая яўрэйка Эстэр Маісееўна, расстраляная пазней у гета.



*Сінагога (2-я палова XVII ст.), спаленая нацыстамі ў 1942 годзе (фота 1920-х гадоў)*

*Васіль ТУМІЛОВІЧ*





## Жнівень

**4 – Брыль Янка** (Іван Антонавіч; 1917, Адэса – 2006), народны пісьменнік Беларусі, перакладчык, публіцыст, ганаровы член НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1982) – 90 гадоў з дня нараджэння.

**4 – Селяшчук Мікалай Міхайлавіч** (1947, Маларыц. р-н – 1996), графік, жывапісец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992) – 60 гадоў з дня нараджэння.

**5 – Маркавец Віктар Пятровіч** (1947, Докшыцы), мастак, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980) – 60 гадоў з дня нараджэння.

**5 – Скалабан Віталь Уладзіміравіч** (1947, Слонім. р-н), вучоны-гісторык, літаратуразнавец, архівіст – 60 гадоў з дня нараджэння.

**6 – «Псалтыр»**, першая друкаваная кніга, выдадзеная Ф. Скарынам у Празе (1517) – 490 гадоў з часу выхаду ў свет.

**6 – Пінігін Мікалай Мікалаевіч** (1957), рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993), тэатральнай прэміі імя Е. Міровіча (1994, 1999) – 50 гадоў з дня нараджэння.

**7 – Мальдзіс Адам Восіпавіч** (1932, Астрав. р-н), літаратуразнавец, крытык, празаік, публіцыст, грамадскі дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1980) – 75 гадоў з дня нараджэння.



***Жніўная пара***
*на карціне Наталлі АНІСЬКОВІЧ*

*Калекцыянерам, і не толькі*

## Звяры нашых лясоў



У паштовы абарот выйшлі маркі дзесятага стандартнага выпуску «Флора Беларусі», падрыхтаваныя выдавецкім цэнтрам «Марка». На мініяцюры **№ 682** адлюстраваная звычайная вавёрка, **№ 683** – лясная соня, **№ 684** – лісіца, **№ 685** – лясны чорны тхор.

Намалявалі маркі Ігар Бубен і Іван Лукін, памеры 22x22, аддрукаваныя на самаклейкай паперы, маюць хвалепадобную падрэзку. Наклад першых дзвюх марак (наміналу А) па 3 мільёны, апошніх дзвюх (наміналу В) – па 1 мільёне асобнікаў.

Выдадзеныя таксама ў малых аркушах па 8 марак (дзве серыі) і 1 купоне на аркушы. Наклад – 20 тысячаў асобнікаў.

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень» (аўтар І. Бубен і І. Лукін).

Апроч усяго, да выпуску падрыхтаваныя чатыры картмаксімумы (на паштоўку наклейваецца марка адпаведнага зместу і гасіцца штэмпелем той жа тэматыкі).







***Вялікі дзякуй супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі***

Беларускі дзяржаўны музей архітэктуры і побыту і «Краязнаўчая газета» гасцінна запрашаюць усіх зацікаўленых адзначыць прафесійнае свята – Дзень гандлю на тэрыторыі музея, які знаходзіцца пад адкрытым небам за 4 кіламетры ад Мінска.

Запланавана шмат цікавых мерапрыемстваў, сярод якіх і знаёмства з вёскай XIX стагоддзя, а таксама гульні, конкурсы, песні, танцы і шмат чаго іншага.

На тэрыторыі музея працуе карчма, дзе можна пакаштаваць стравы беларускай нацыянальнай кухні.

**Пачатак свята в 14 гадзіне 29 ліпеня. Кошт уваходнага білета 6 000 рублёў.**

***Тэлефоны для даведак: 209-41-63; 507-69-37; 856-33-19; 688-27-12.***

***Афіцыйны сайт: www.etna.of.by, e-mail: info@etna.of.by***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГАРМОНІК** (*гармоня*) – язычковы пнеўматычны клавішны музычны інструмент. Мае корпус («каробка»), мех, меладычную і басавую клавіятуры («галасы», «басавікі»), сталёвыя язычкі («пішчыкі»). З'явіўся на Беларусі з Расіі ў 2-й пал. XIX ст. спачатку на Віцебшчыне, а пасля пашырыўся і далей. Палюбіўся ў народнай інструментарыі ў асноўным у двух разнавіднасцях – хромцы і «венцы». Выкарыстоўваецца як інструмент сольны і ансамблевы, разам з ударнымі (бубнам, барабанам, вугольнікам), струннымі (скрыпкай, цымбаламі), духавымі (кларнетам, трубой). Сярод сялян былі ва ўжытку самаробныя гармонікі. У савецкі час па вырабе іх вызначылася Маладзечанская фабрыка музычных інструментаў.

**ГАРОШКАЎ** – гарадзішча (IV–I стст. да н.э.) і паселішча (IV ст. да н.э.) мілаградскай культуры на невысокім мысе правага берага Дняпра ў в. Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Яно, як лічаць даследчыкі, было трохкутнай формы плошчай 2 га, ад поля ўмацавана ровам і знешнім валам вышынёй да 3,5 м. Сярэдзінны вал вышынёй да 2 м падзяляў гарадзішча на 2 часткі – меншую жылую і большую, занятую могільнікам. Паводле археалагічных даследаванняў, спачатку знешні вал быў насыпаны з пяску вышынёй 1 м, ніжэй грэбеня да яго ўнутранага схілу была прыбудаваная агароджа з тоўстых пакладзеных гарызантальна бярвёнаў. Вал быў перакрыты другім пясчаным насыпам вышынёй 2 м. Унутраны вал насыпаны амаль адначасова са знешнім і меў таксама 3 будаўнічыя перыяды. На жылой плошчы былі выяўленыя сляды 20 жытлаў, што размяшчаліся паблізу ў цэнтральнай частцы. Калі гаварыць па-сённяшняму, пакоі былі 12–16 м² і часамі заглыбленыя ў зямлю больш за паўметра. Сцены абкладваліся з гарызантальна пакладзеных жэрдак і тонкіх бярвёнаў, што вертыкальна ўмацоўваліся слупамі, часамі – сплеценым голлем. Страха была двухсхільная. Унутры жылля, паблізу ўвахода, размяшчаліся агнішчы. Непадалёку жытлаў знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы, асобныя жытлы адгароджваліся адно ад аднаго своеасаблівымі платамі з буйнога галля. Даследчыкамі былі адшуканыя і тагачасныя культавыя пабудовы. Адпаведна, паселішча ў Гарошкаве магло быць цэнтрам роду або племя. Знойдзены і пабудовы вытворчага прызначэння (горны, кладоўкі і інш.).

На гэтым гарадзішчы адшуканыя срэбныя, бронзавыя і жалезныя круглыя, вітыя, спіральныя бранзалеты, пярсцёнкі, медныя і бронзавыя завушніцы, бронзавыя і жалезныя падвескі, фібулы, шпількі, пацеркі, прасліцы, фігуркі жывёл, ляпны посуд і інш.



*Гармонік*





*Бронзавыя бранзалеты (IV–V ст.)*
*: гліняная фігурка каня з гарадзішча Гарошкаў*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 26.07.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 911.
Тыраж 1240 асобнікаў.